# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 9 (38). Слонім. 27 лютага — 5 сакавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


# У палоне штрафных санкцый

**З 1 красавіка аўтарамонтны завод можа стаць банкрутам, калі не заплаціць 3 млрд. 300 млн. руб. штрафных санкцый. У выніку 325 работнікаў прадпрыемства апынуцца на вуліцы.**

Што ж на самой справе здарылася з заводам, які паступова зноў пачынае падымацца на ногі? Пра гэта карэспандэнту «ГС» расказвае дырэктар АРЗ Анатоль Фідрык:

–У мінулым годзе спецыялісты Дзяржкаммаёмасці правялі ацэнку асноўных фондаў завода. Высветлілася, што частка з іх раней не была пастаўлена на баланс прадпрыемства. Напрыклад, прыбудовы да карбавальнага аддзялення, карбюратарнага ўчастка і г.д. Ніхто з цяперашніх работнікаў не помніць, калі яны будаваліся. Цяпер цяжка вызначыць, па чыёй віне гэта здарылася. Мяняліся кіраўнікі, работнікі бухгалтэрыі, эканамісты...

Тым не менш, слонімская падатковая інспекцыя абклала нас велізарным штрафам за несвоечасовую пастаноўку на баланс асобных аб'ектаў. Да першага красавіка нам неабходна заплаціць 3 млрд. 300 мільёнаў рублёў. На працягу апошніх месяцаў мы пералічвалі па 30-40 мільёнаў у лік пагашэння штрафных санкцый. Але развіліцца канчаткова да 1 красавіка нам не пад сілу. Такіх грошай у нас няма. Не зможам мы іх знайсці ні праз месяц, ні праз год.

325 работнікаў завода апынуліся ў палоне штрафных санкцый. Амаль штодзённа да мяне прыходзяць групы рабочых з розных цахоў і ўчасткаў і задаюць адно і тое ж пытанне: што будзе з намі пасля першага красавіка, што робіцца для таго, каб знайсці выйсце з гэтага фінансавага палону?

Што датычыць адміністрацыі заводы і мяне асабіста, то мы са свайго боку робім усё магчымае, каб вырашыць гэтае пытанне. Прыйшлося часова адкласці ўсе вытворчыя справы і прайсці шматлікія інстанцыі ад мясцовай падатковай інспекцыі да дзяржаўнага падатковага камітэту.

Хутка 1 красавіка, а пытанне аб знішчэнні з нас штрафных санкцый не вырашаецца. Але больш за ўсё мяне хвалюе лёс калектыву. Многія працуюць на заводзе сем'ямі. Атрымліваючы мізэрную заработную плату, яны не пакідаюць завод, і з хваляваннем чакаюць адказу на пытанне: ці будзе існаваць прадпрыемства?

Не хочацца нават думаць, што праз месяц маёмасць прадпрыемства будзе арыштавана і пойдзе з малатка. У вадзіцеляў адбяруць аўтамашыны, у рабочых — станкі. Людзям нічога не застанецца, як пакінуць завод, якому многія аддалі шмат гадоў свайго жыцця.

Адбудзецца своеасаблівае пераразмеркаванне сродкаў, якія пяройдуць з адной дзяржаўнай структуры ў другую.

Не разумею, каму ад гэтага стане лепш?

**Запісаў Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Ждем президента

**Наконец, определено время проведения в Гродно республиканского совещания по результатам работы агропромышленного комплекса.**

Первоначально оно планировалось на декабрь прошлого года, затем — на январь, февраль. Теперь, если не случится ничего непредвиденного, совещание пройдет 4-5 марта. Его программа еще уточняется, а пока планируется, что в первый день участники совещания — более восьмисот человек — ознакомятся с экспонатами выставки сельхозпродукции, посетят сельхозпредприятия «Прогресс» и «Обухово» Гродненского района, колхоз имени Воронецкого Берестовицкого района, Гродненский мясокомбинат и сельскохозяйственный институт. 5 марта состоится пленарное заседание участников совещания. Ожидается, что в нем примет участие президент страны Александр Лукашенко.

**БелаПАН**

## Чытайце ў нумары:



НАВІНЫ

## Вобласць адзначыла Слонімшчыну

**Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт прысудзіў нашаму гораду трэцяе месца ў вобласці за высокія паказчыкі ў развіцці прамысловасці, транспарта, сувязі і сферы паслугаў у 1997 годзе.**

У сувязі з гэтым, Слонім атрымаў дыплом і грашовую прэмію ў суме 800 мінімальных заработных плат (МЗП). Быў адзначаны і Слонімскі раён, які заняў другое месца ў вобласці за дасягнутыя высокія паказчыкі ў сацыяльна-культурным развіцці. Райвыканкам таксама атрымаў дыплом і грашовую прэмію — 1000 МЗП.

## Новыя тарыфы

**Міністэрства эканомікі рэспублікі распрацавала шэсць варыянтаў магчымага змянення тарыфаў за жыллёва-камунальныя паслугі.**

Як піша газета «Навіны», такім чынам плануецца паступова падняць плацяжы да 100% акупнасці затратаў за камунальныя паслугі.

**Наталля ФУРСАВА**

## Заслуженный учитель

**24 февраля в СШ №3 прошло торжественное собрание в связи с присвоением Александру Кухаренко почетного звания «Заслуженный учитель Республики Беларусь».**



Александр Демьянович единственный работающий педагог в Слониме, которому присвоено такое звание. На празднике присутствовали представители городского отдела образования, всех школ города, ученики СШ №3. Все присутствовавшие были едины во мнении, что Кухаренко — учитель по призванию. Он умеет убедить ученика в том, что его мнение ценно и уникально, а это пробуждает в ребенке чувство своей значимости.

**Елена СИНЯК**

ЗДАРЭННІ

## Падпальшчык пакуль невядомы

**17 лютага каля вёскі Касцяні згарэў хутар.**

У выніку, агонь знішчыў хлеў і жылы дом, які выкарыстоўваўся як лецішча. Не выключана, што прычынай пажару быў падпал. Вядзецца расследванне.

## Сарваў пячаткі і... пагарэў

**У чацвер, 19 лютага, на вуліцы Мінскі тракт гарэў цэх па рамонту аўтамабіляў слонімскага прадпрымальніка Міхаіла Т.**

У выніку пажару быў пашкоджаны аўтамабіль «Масквіч» і абсталяванне гаража. Як стала вядома, прадпрымальнік Т. у гэтым годзе ўжо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці пажарнай інспекцыяй за парушэнні пажарнай бяспекі. Сямнаццатага лютага была прыпынена эксплуатацыя цэха і яго апячаталі. Аднак Міхаіл Т. пячаткі сарваў і зноў пачаў працаваць. Вынік — вядомы...

**Сяргей ЁРШ**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены (в тыс. руб.)*

| | 05.11 1997 | 25.02 1998 | | 05.11 1997 | 25.02 1998 |
|---|---|---|---|---|---|
| апельсины | 38 | 40 | яйца (1дес.) | 30 | 28-30 |
| бананы | 40 | 50 | свинина | 45-90 | 55-120 |
| яблоки | 4-8 | 20-25 | сало солёное | 70-80 | 80-85 |
| капуста | 5 | 10 | мед | | |
| морковь | 4-5 | 6-7 | натуральный | 150 | 200-250 |
| лук | 11-13 | 35 | свекла | 4 | 6 |
| чеснок | | | сметана | - | 28 |
| (головка) | 35 | 60 | киви (1шт.) | - | 12 |
| картофель | 4-4.5 | 6.5 | лимоны | - | 58 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 | говядина | | |
| творог | 18 | 18-20 | (телятина) | - | 60-115 |
| масло | 90 | 80 | сухофрукты | - | 40 |

РЭЗАНАНС

# «Калі я згублю давер калектыву, дык неадкладна падам у адстаўку»

***— так заявіў дырэктар мясакамбіната Алег Бярдула 18 лютага на сходзе работнікаў гэтага прадпрыемства.***

Наша газета ўжо пісала (№ 5, 1998 г.), што камітэт дзяржаўнага кантролю праводзіў праверку адкрытага акцыянернага таварыства «Слонімскі мясакамбінат». У выніку, былі выяўлены некаторыя адхіленні ад заканадаўства падчас правядзення акцыяніравання гэтага прадпрыемства. Удакладнім, што наша публікацыя грунтавалася на выніках праверкі прадпрыемства, якія былі надрукаваны ў газеце адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия» (№8-9, 13 студзеня 1998г.). Аднак, высветлілася, што ў матэрыяле «СБ» няправільна «была акцэнтавана ўвага». Таму на сходзе ставілася мэтай растлумачыць людзям сапраўдны стан рэчаў, звязаных з праведзенай праверкай. Спецыяльна для ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве з Гродна былі запрошаны работнікі камітэта дзяржкантролю.

Перад акцыянерамі выступіў дырэктар камбіната Алег Бярдула, які растлумачыў сітуацыю. Потым слова ўзяў начальнік аддзела абласнога камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Русанаў. Ён сказаў, што ўсе абвінавачванні ў бок дырэктара прадпрыемства ў газетных публікацыях беспадстаўныя. «Але, калі б мы не спынілі гэты працэс, то 88% акцый маглі апынуцца ў руках камерсантаў, у тым ліку, і замежных», — сказаў Русанаў.

Ён таксама паведаміў, што парушэнні адносяцца да таго часу, калі Бярдула яшчэ не быў дырэктарам (на гэтай пасадзе ён знаходзіцца са студзеня 1997 г.). Апошнім часам менавіта ён прыняў шэраг мераў, каб не дапусціць скупкі акцый прадпрыемства замежным капіталам. Напрыклад, 11,9 % пакета акцый мясакамбіната зарэзерваравана за дзяржавай. Калгасам і саўгасам, якія ў свой час атрымалі 40% пакета акцый прадпрыемства, забаронена іх прадаваць.



На сходзе было адзначана, што за 1997 год мясакамбінат атрымаў больш прыбытку, чым за папярэднія два гады. На выплату дэвідэнтаў акцыянерам будзе выдзелена 5 працэнтаў ад прыбытку (каля 3200 рублёў за 1 акцыю). За мінулы год Слонімскі мясакамбінат закупіў абсталяванне на 9 млрд. рублёў. «Амаль больш, чым уся Беларусь», — так пракаменціраваў гэты факт Алег Бярдула.

**Сяргей ЁРШ**

ІНФАРМБЮРО

# «Сидим на хлебе и воде»

*Вот уже целый год прошел с тех пор, как началось строительство нашего 9-этажного дома (N 37 КПФ), что напротив СШ N8. Всего 36 квартир. Нас волнует, что строится он очень медленно. Банк перечислил кредиты (большую половину стоимости дома, если брать первоначальную цену), но строители СУ-187 не освоили эти деньги. В итоге: стройка стоит, а цены растут. Сейчас стоимость одного квадратного метра поднялась до 7 млн. рублей. К концу строительства цены поднимутся еще больше, а заработная плата — почти на одном уровне. Многие из застройщиков сидят на воде и хлебе.*

*Дом должен быть сдан в первом квартале этого года, но сроки сдачи перенесены на второй квартал. Мы, будущие жильцы дома, не знаем, кого просить о помощи в решении нашего вопроса.*

**Прокомментировать это письмо мы попросили начальника СУ-187 Виктора Брайчука:**

– Строительство 36-квартирного дома было начато в мае 1997 года. Планировалось, что уже в феврале этого года дом будет сдан. Однако, по той причине, что для его строительства своевременно не были выделены необходимые кредиты, сроки сдачи были перенесены на июнь 1998 года.

Сейчас средства у нас есть. Работаем мы в две смены. Вскоре начнем работать в три смены. С апреля начнем отделочные работы.

НАВІНЫ

# Юбілей аўтобуснага парка

**Калектыў аўтобуснага парка № 3 адзначыў свой 20-гадовы юбілей.**

У пятніцу, 21 лютага, на ўрачысты сход былі запрошаны работнікі прадпрыемства, ветэраны працы, госці.

З нагоды юбілею аўтамабілістаў павіншаваў першы дырэктар аўтапарка Міхась Казлоў, намеснік старшыні гарвыканкама Міхась Акулік.

Перад юбілярамі з канцэртнай праграмай выступіў творчы калектыў раённага дома культуры.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

З ЗАЛЫ СУДА...

# Слёзы маці

У зале суда ішло чарговае слуханне крымінальнай справы. Судзілі шасцёра маладых хлопцаў, якія ўчынілі крадзяжы іконаў і іншай маёмасці з цэркваў і касцёлаў.

Падсудныя па чарзе тлумачылі суду, як яны па начах перапілоўвалі засовы, ламалі замкі, білі вокны і лезлі ў храмы, адкуль кралі ўсё, што трапляла пад руку. Падчас працэсу да майго пляча нехта дакрануўся. Я азірнуўся. На мяне глядзеў знаёмы маршчыністы твар жанчыны. Я пазнаў яе, бо мы некалі разам працавалі. Са слязьмі на вачах яна паціху сказала:

—Сядзяць, вось, мае два сыночкі ў клетцы, нібы звяры ў заапарку! — і змоўкла. Я ўсё зразумеў. Потым успомніў, як гадоў шэсць таму назад гэтая жанчына жаласліва распавядала пра тое, як яе сыны-блізняты трапілі ў турму за крадзёж. Па яе словах, тады юнакі працавалі абкатчыкамі аўтамабіляў на Мінскім аўтамабільным заводзе (МАЗ) і, карыстаючыся бескантрольнасцю вартаўнікоў, выганялі з завода і прадавалі за бясцэнак «МАЗы». Больш як пяць гадоў запар вазіла тады маці перадачы сваім блудным сынам у адну з віцебскіх калоній.

На памяць прыйшоў яшчэ выпадак, калі Марыя шчыра падзялілася з намі сваёй радасцю, што хутка на волю вернуцца яе Анатоль і Сярожа, і жыццё ў іх пойдзе па-іншаму.

Але яе спадзяванні не спраўдзіліся. Вярнуўшыся з турмы, браты не хацелі працаваць. Ды і калонія, відаць, нічаму не навучыла юнакоў. Вясной мінулага года, апоўначы, Анатоль Ігнацік, разам са сваімі кампаньёнамі Уладзімірам Лагошам і Аляксандрам Шэндзікам, перапілавалі дужку замка і, узламаўшы дзверы, залезлі ў Свята-Успенскую царкву ў Казлоўшчыне. У мех закідалі ўсё, што трапіла пад руку: крыжы, Евангелле, іконы, 300 тысяч грошай і нават дзве бутэлькі царкоўнага віна.

Першая ўдача акрыліла маладых злодзеяў. Праз некалькі тыдняў злачынная група залезла ў касцёл вёскі Луконіца Зэльвенскага раёна, адкуль былі ўкрадзены два дываны, агульным коштам 4,2 млн. руб.

Забягаючы наперад, хачу звярнуць увагу, што гэтыя дываны Анатоль Ігнацік прынёс дамоў, дзе іх пазней знайшла міліцыя.



Другі брат, Сяргей, праз месяц з тымі ж асобамі залез праз акно ў царкву вёскі Сурынка Слонімскага раёна. З храма яны вынеслі дзесяць іконаў, якія пазней былі ацэнены на суму 11,7 млн. рублёў.

Напрыканцы працэсу суддзя запытаў у аднаго з падсудных Ігнацікаў, што прымусіла іх шчыра прызнацца ў злачынстве?

—Грэх! Вялікі грэх! — адказаў той.

Суд прыгаварыў Анатоля Ігнаціка да шасці гадоў пазбаўлення волі, Сяргея Ігнаціка — да пяці гадоў.

Калі асуджаных павезлі ў следчы ізалятар, Марыя падыйшла да мяне і ў роспачы сказала:

—Хіба я пасылала іх красці абразы? Няхай ім рукі пасохнуць за такое! Ды што я магла зрабіць з імі?

Я задаў Марыі толькі адно пытанне:

—А што, ты думала, калі ўначы твой беспрацоўны сын прынёс у хату два дываны?

Адказу не пачуў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Ф. РД - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **64042** (індэкс выдання)

***«Газета Слонімская»*** (назва выдання)

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс і адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **64042** (індэкс выдання)

***«Газета Слонімская»*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс і адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

Газета Слонімская

Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.

Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.

E-mail: gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 26 лютага 1998 г. Час падпісання 8:00. Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042. Наклад 7.400 экз. Заказ № 586

## НАШ КОНКУРС

# «Самая очаровательная»

**УВАГА, МІЛЫЯ ПРЫГАЖУНІ!**

На працягу трох месяцаў наша газета праводзіла конкурс «Самая очаровательная». Лепшыя фотаздымкі былі апублікаваны. Прыйшоў час падвесці вынікі. Таму сёння мы друкуем фотакарткі дзяўчат, якія яны прынеслі ў рэдакцыю ў апошнія дні. У наступным нумары вы пазнаёміцеся з пераможцамі. Тры прыгажуні атрымаюць каштоўныя прызы. А тым, каму не пашанцавала, адчайвацца не трэба, бо конкурс працягваецца. Рэдакцыя «Газеты Слонімскай» чакае ад вас новыя фотаздымкі і расказы пра сябе. Адна просьба: фота павінна быць якасным. Не забывайце, таксама, паведаміць свой адрас і тэлефон, каб мы змаглі вас знайсці. Шчасця вам, прыгажосці і кахання!



**ВИКТОРИЯ**

Мне 15 лет. По знаку Зодиака — Телец. Обожаю мягкие игрушки. Любимый писатель — Николай Гоголь. Любимые предметы — русский язык и литература. Мечтаю получить педагогическое образование и работать в милиции.



**СВЯТЛАНА**

Мне 15 гадоў, нарадзілася 25 чэрвеня. Студэнтка вучылішча. Займаюся спортам. Люблю вязаць, слухаць музыку, танцаваць, чытаць кнігі і дапамагаць бацькам.



**ИНЕССА**

Мне 17 лет. Студентка. Знак Зодиака — Весы. По натуре — веселый, душевный человек. Обожаю белые розы. Люблю юмор, ценю дружбу и не терплю предательства. Мой девиз — всегда добиваться того, чего хочу.



**ОЛЬГА**

Мне 16 лет. По знаку Зодиака — Рак. Студентка. Свою жизнь связала с музыкой.



**НАТАША**

Мне 14 лет, Стрелец. В свободное время люблю слушать музыку. Красиво рисую. Увлекаюсь политикой. Поддерживаю Белорусский Народный Фронт. Неравнодушна к красивым вещам. Очень люблю животных. Мечтаю стать ветврачом.



**СВЯТЛАНА**

Мне 18 гадоў. Студэнтка медінстытута. Ганаруся сваім беларускім народам і яго гісторыяй. Хачу, каб беларусы жылі ў поўным дастатку і сама буду ўсё рабіць для росквіту Беларусі. Падабаецца ў жыцці ўсё, што прыносіць радасць і не парушае правы і свабоду другіх. Умею многае рабіць, бо гэта патрабуе жыццё. Усім шчасця ў дом. Шчасця Беларусі!



**ИННА**

Мне 16 лет. По гороскопу — Весы. Занимаюсь углубленным изучением английского языка. В свободное время слушаю музыку, играю на гитаре.



**ОЛЬГА**

Мне 14 лет. Учусь в школе. По знаку Зодиака — Рак. Люблю веселые компании. Любимое время года — лето. Нравится зеленый цвет.

# РОДНАЕ СЛОВА

## Кандрат Лейка (1860 — 1921)

Калі ў 1980 годзе ў сёмай слонімскай школе пачаў стварацца літаратурны музей, пра нашага земляка, паэта Кандрата Лейку, нам было мала што вядома. Але мы ўпарта шукалі, напісалі каля тысячы лістоў больш чым 200 адрасатам. Нарэшце, на Украіне знайшлі ў горадзе Здалбунаве пляменніка паэта Уладзіміра Іванавіча Лейку. Ён падзяліўся з намі матэрыяламі пра Кандрата Лейку: прыслаў фотаздымкі, альбом з аўтабіяграфіяй паэта, ягоныя неапублікаваныя творы і лісты.

Кандрат Фёдаравіч Лейка нарадзіўся 17 верасня 1860 года ў вёсцы Збочна на Слонімшчыне. Бацька яго часта хварэў, а маці была працавітая, добрая, ласкавая жанчына. Чытаць хлопчыка навучыў яго родны дзядзька Раман. Вучыўся К. Лейка ў Азярніцкім вучылішчы, вызначаўся стараннасцю, дапытлівасцю, за што яго адправілі працягваць навуку ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю за «казённы» кошт. Пасля яе заканчэння, да 1884 года Лейка працаваў настаўнікам у Косаве. У 1881 годзе памерла яго маці, якой паэт пазней прысвеціць апавяданні «Успамін» і «Таклюся-сухотніца». На яе магіле ў Збочна ўдзячны сын паставіць помнік з наступным надпісам: «Таклюсі Лейка». У 1884 г. К. Лейка быў вымушаны пераехаць у Харкаўскую губерню, дзе працаваў у народных вучылішчах.

На пачатку XX стагоддзя ён актыўна супрацоўнічае з віленскай «Нашай Нівай», куды дасылае свае творы. У 1912 годзе пабачыла свет кніжка паэта «Снатворны мак», якую



аўтар прысвяціў дзецям Слонімшчыны. Праз два гады была спроба выдаць у Вільні зборнік твораў Лейкі. Наш зямляк падабраў для кнігі творы і прасіў выдаўцоў «не мяняць слоў, бо я стараўся пісаць іх так, як гавораць каля Слоніма, дзе беларуская мова лічыцца самаю чыстаю». Аднак кніга так і не выйшла...

У 1918 годзе Кандрат Лейка, паралізаваны, быў перавезены да свайго брата Івана ў Здалбунаў. Хворы пісьменнік вельмі цяжка перажываў разлуку са сваім сынам Віталем. Ён склаў для яго «Альбом» са сваімі вершамі, запісамі, але сын яго не пабачыў... У лісце сябрам, якія прапаноўвалі хвораму пісьменніку пераехаць на Бацькаўшчыну, Лейка пісаў: «Падацца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі, — о, якая б гэта была дзеля мяне радасць, шчасце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыццё мяне зусім задавіла. Аб сваёй Маці-Айчыне магу зараз толькі ў салодкіх марах успамінаць...».

Памёр паэт 6 верасня 1921 года і пахаваны ў далёкім Здалбунаве.

**Мікалай СІДАРОВІЧ**

**Сёння мы прапануем чытачам «Газеты Слонімскай» некалькі твораў нашага земляка Кандрата Лейкі.**

## Ганулька

— Ты ж ведай, — тлумачыў бацька свайму сыну Рыгору, — Ганулька табе не пара. Агонь з ядлаўцом не ўжываюцца. Глядзі, каб не зрабіў абмылка, бо абмылак у жаніцьбе — гэта засмарга (пятля — **М.С.**) на горла.

— Або Ганулька, або ніхто, — адрэзаў сын.

— Ну, няхай будзе, як ты хочаш, — згадзіўся стары; глядзі толькі, як выйдзе што кепска, каб не карыў бацькоў.

На другі дзень пад вечар Янка Бядак з жонкаю сваёю сядзелі ў хаце. Ганулька мясіла ў дзяжы цеста. У гэты час адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў Якім Снопка, з баханчыкам хлеба пад пахаю і бутэлькаю гарэлкі ў руках.

— Пахвалёны, — сказаў Якім, здымаючы з галавы пляскатую як блінец шапку. — Ці жывы, ці здаровы?

— Жывем памаленьку, — адказаў Янка. — Як вас там Бог мілуе?

— Нічога, да пары цягаемся сяктак, дзякуй Богу, — адказаў Якім.

— Што скажаш нам, Якімко? — спыталася гаспадыня, зацікавіўшыся тым, што бачыла ў руках.

Якім паставіў на стол бутэльку, паклаў хлеб дый кажа:

— Я сват прысланы,
Каб быў стол засланы.
Прыйшоў я па тую кветку,
Што бачыў на полі ўлетку.
Кветка тая — крулёўна
Ваша Ганулька шаноўна!

— За каго ж, Якімко, ты сватаеш нашу дачку? — спыталася маці.

— За Рыгора Табарчука, — адказаў сват.

— За Рыгора! — жахнулася Бедачыха. Не можа быць. Тут мусіць абмылак які. Ці ж гэдакі багач захоча з намі радніцца?

— Мусіць захацеў, калі заслаў да вас свата і сказаў, каб не варочаўся дадому, покі не даб'юся ад вас слова, якое яму трэба мець. Дый што аб гэтым талкаваць. Вы адкрыта скажыце: згодны аддаць за Рыгора сваю дачку ці не. Я лішняе мовы не люблю, — не першы раз сватам.

— Чаго ж не згодны, — адказаў бацька. — З мілаю душою аддамо.

— Лепшага зяцька нам і не трэба, — дадала маці.

— Ну, дык цяпер вып'ем за здароўе і шчасце маладых, — сказаў сват і пачаў наліваць у чаркі гарэлку.

Выпілі па адной, потым па другой, закусілі хлебам з соллю. Вот маці, павярнуўшыся да дачкі, і кажа:

— Мы цябе, дачка, запіваем за Рыгора Табарчука, дык пайдзі ў камору, вазьмі там чырвоную стужку і павяжы сватаву бутэльку, як звычай патрабуе таго.

Ганулька накрыла дзяжу, абмыла рукі і, падышоўшы да стала, адрэзала:

— Слухайце, бацька ды маці і ты, дзядзька Якім: я за Рыгора замуж не пайду. Лепей зарэжуся альбо павешуся, а жонкаю гэдакага дурня не буду.

Сказаўшы гэта, Ганулька грукнула дзвярамі і выйшла на двор.

— Ты, Якімко, не звяртай увагі на тое, што напляла дачка мая. Ведама, яна яшчэ маладая, не можа сцікаваць усяго як след дык і фанабэрыцца.

— Нічога, — адказаў Якім, — я дзявоцку натуру добра ведаю, — не першы раз сватам. Яны заўсёды спярша брыкаюцца, а потым здаюцца і становяцца мяккімі, хоць вяроўкі з іх ві.

— Не яе воля, — сказаў бацька, — за каго захочам, за таго і пойдзе.

— Яно праўда, — аказалася зноў маці, — гаворачы, Якімко, паміж нас, Рыгор Ганульцы нашай не пара: ён і сабою няздольны, і ў галаве, як кажуць людзі, недахват, але што зробіш. Недастаткі нашы...

— Якія вы дзіўныя людзі, — перабіў Якім. — Ну, няхай сабе Рыгор дурань, што вам да гэтага? На што вам яго розум? У бацькі Рыгоравага закопана тры скрыні чырвонцаў. Усё гэта па смерці старога дастанецца Рыгору, — от дзе хундамант, а на іншае што напляваць; з гаспадаркаю ўправіцца як найлепей сама Ганулька. Я ўсё гэта добра ведаю, — не першы раз сватам.

— Матку-праўду сват сказаў, — падцвердзіў бацька і дадаў: ну, старая, прынясі стужку і закваці бутэльку. Хай іх Бог благаславіць.

Бедачыха прынесла з каморы стужку і павязала на сватаву бутэльку.

— Божа, пашлі ім шчасце і найлепшую долю! — сказала маці, засоўваючы пляшку свату за пазуху. Якім разгладзіў далонем бараду, пажагнаўся з гаспадаром і гаспадыняю і, злажыўшы на галаву шапку, стаў выходзіць з хаты.

— Скажы, сваток, — прасіла Бедачыха Якіма, — Рыгору і яго бацькам, што мы дзякуем за гонар, што Ганулька вельмі жадае выйсці замуж за Рыгора.

— Не вучы мяне, кабетка, я сам добра ведаю, што мне трэба сказаць, — не першы раз сватам, — адказаў Якім і выйшаў з хаты.

Як толькі пасля адыходу свата Ганулька вярнулася ў хату, бацькі зараз прыняліся яе вучыць і настаўляць на розум.

— Якая ты, Ганулька, дурная, — уразумляла маці, — такія важныя людзі заслалі свата, а ты не звяртаеш ніякое ўвагі; дый мала таго, яшчэ напляла глупства, асароміла сваіх бацькоў. Хто гэдак робіць?

— Гэдак робяць тыя, якіх бацькі насілам выдаюць замуж за нялюбых, — адрэзала дачка.

***

Ганулька аб нечым размаўляла з дружкамі.

— Пара, доньку, ехаць да цэркві, — сказала маці Ганульцы, — выходзь з-за стала.

— Добра, матухна, еду, — адказала Ганулька і выйшла з покуця на сярэдзіну хаты. Каля яе поруч стаялі дружкі, а наперадзе маленькі брацік трымаў у руках абразок, якім бацькі павінны былі благаславіць дачку, адпраўляючы да шлюбу.

— Ну, — сказала старшая дружка, — выходзьма.

— Зараз, сястронка, — сказала Ганулька, — падай толькі мне чарку.

Дружка падала чарку. Ганулька дастала з-за пазухі бутэлечку з нейкаю жоўтаю настойкай, наліла ў чарку і як бачыш выпіла, а бутэлечку кінула пад печ.

— Перад шлюбам нешта п'е, — спалохаліся жанкі, якія былі ў хаце. — Ці ж гэта можна? Ці не атруту якую выпіла! — ускрыкнула маці.

— Не палохайся, матка, нічога страшнага тут няма, — усё робіцца як трэба, — разважала маладая. — Я выпіла добрае настоечкі, бо сёння апошнія перад шлюбам мае запоіны.

Радасны настрой у гасцей упаў, усе чакалі нечага нядобрага. Бацькі стаялі як у ваду апушчаныя.

— Гэй, музыка! — раптам ускрыкнула Ганулька, — грай вясёлую, каб аж дух захватвала, буду скакаць, бо надта рада, што аддаюць замуж за багатага! Ну!

Музыка зайграла. Ганулька, узяўшыся ў бокі, пусцілася па хаце вырабляць усялякія выкрунтасы спяваючы:

— Мяне замуж выдаюць,
За чырвонцы прадаюць;
Вянчаць хочуць з касавокім
Гнілым дурнем крывабокім.
Хутчэй, маці, на пагубу
Выпраўляй мяне да шлюбу...
Не, матуся, я не здамся,
За чырвонцы не прадамся.
Лепей жыцця я рашуся,
Чым з нялюбым абнімуся.
Грай, музыка, рэж да ладу,
Буду скакаць, покі ўпаду.
Мы, дзяўчаты, ніц не варты,
Наша жыццё — адны жарты.

Дайшоўшы скокамі да дзвярэй, Ганулька ўздыхнула і ўпала, як зрэзаная сярпом кветка.

## Паймала і пазнала

Прыйшла жонка да старшыны на скаргу, што ноччу хлопцы зусім абабралі яе садок.

— Пане дабрадзею, — казала яна, кланяючыся, — прыстраш ты гэтых гыцляў, каб яны больш не крыўдзілі мяне, не траслі па начах маіх грушаў.

— А ты паймала хоць аднаго? — спытаўся старшына.

— А як жа, мой дабрадзей, паймала і пазнала...

— Хто ж гэта, скажы, кабетка? — дапытваецца старшына.

— Альбо Тодар, альбо Марко, альбо й хто... — адказала жонка.

## На споведзі

Хлопчык пайшоў на споведзь да ксяндза. Ксёндз прызнаваў толькі польску мову, а хлопчык гэтае мовы не разумеў. Ксёндз і пытаецца:

— Які ў цебе, хлопче, ест гжэхі?

— Бацьку, маці не слухаў, гаршчок адзін раз разбіў, — сказаў хлопчык і стаў успамінаць, што ён яшчэ кепскае зрабіў. Ксёндз, пачакаўшы трошкі, і пытаецца:

— А венцай цо?

— І венцы*, пане ксёндз, разбіліся, — адказаў хлопчык.

* Венцы — гэта закручына, якая робіцца зверху гаршка (заўвага аўтара).

## Як гэты... так і адгэты

Прыйшоў Баўтрук да Анопрыя прасіць, каб той пазычыў яму грошаў.

— Змілуйся, Анопрыйко, пазыч хоць рублёў трыццаць, бо трэ купіць воліка.

— А калі ж ты, Баўтручок, аддасі мне пазыку? — пытаецца Анопрый.

— Як свінні будуць з поля ісці*, дзядзечка, — адказаў Баўтручок.

— Добра... Толькі за грашамі да мяне прыходзь, Баўтручок, як авечкі будуць бегчы з пашы**, — адказаў у сваю чаргу Анопрый.

*Свінні заўсёды з поля бягуць.

**Авечкі з пашы заўсёды ідуць (заўвагі аўтара).

## Лісіца — шахрайка

**Казачка**

Жылі сабе дзед ды баба. От раз спякла баба пяць пірагоў. Сталі старыя пірагі тыя дзяліць між сабою. Дзяліліся яны, дзяліліся і ніяк не змаглі падзяліці іх пароўну: возьме баба сабе два пірагі, дзеду застанецца тры, пакладзе сабе тры, у дзеда застанецца два. Меркавалі, круціліся — нічога не выходзіць, усё застаецца лішка. Бяда дый толькі. Сталі старыя спрачацца ды сварыцца. У гэты час увайшла ў іх хату лісіца і гаворыць:

— Чаго вы, старэнькія, сварыцеся? Калі хочаце, я падзялю пірагі паміж вамі пароўну.

— Ну добра, дзялі; толькі глядзі, каб без усякага шахрайства, — адказалі старыя.

— Хай Бог сцеражэ; мой дзед і бацька не займаліся шахрайствам і мяне не вучылі гэтаму паскудству, — выкручвалася лісіца.

— Няхай будзе праўда, — сказалі старыя, — дзялі...

Лісіца пачала дзяліць і кажа:

— Дзеду пірог, бабе пірог, а мне тры за парог.

Узяла шахрайка тры пірагі і выйшла з хаты. У дзеда з бабаю засталося па пірагу. І старыя былі надта рады, што лісіца падзяліла пірагі між імі пароўну.

### Песня ластаўкі

Перапілі, пераелі,
Пералушчылі, —
На Каляды, на Вялікдзень,
На запушчыны.
Чым я буду, чым я буду
Гадаваць дзіцят?..
Накраду я, накраду я
У гаспадынь зярнят.
Накармлю я, накармлю
Маіх птушанят.

### Дзед і баба

—Ідзі, ідзі, дзедку,
Ды ў лес па маліну.
А калі не пойдзеш,
То, даль-бо, пакіну.
—Ой, не кідай, бабка.
Ой, не кідай, любка, —
Сварліва галубка:
Прынясу малінку
І добру дубінку
На бабіну спінку.

**1883 г.**

### Птушкі

От вароны, стары жоны,
Пайшлі жыта жаці,
А галачкі — цыганачкі
Снопікі вязаці.
Даўгашыі жураўлі
Выйшлі ўсе касіці,
Гаробчыкі - малойчыкі —
Пакосы сушыці.

Ластавачкі з плісачкамі
У дудачку граюць,
А малінкі, канарэйкі,
Седзячы спяваюць.
Жаўтабрушкі з кулікамі
Па шляхах вандруюць.
А арлы з-за гор далёкіх
Усімі кіруюць.

**1885 г.**

### Песня семінарыстаў на вечарынцы

Усяму пазначан свой канец;
Дано нам жыццё на хвіліну;
Памрэ разумнік і глупец, —
Мы маем усе адну сцяжыну.
Хто ў полі косіць, жне, гарэ
І той, што любіць панаваць,
Пара настане і памрэ
І будзе век у зямлі ляжаць...
Мо чый ужо прыйшоў канец
Звон зараз скажа: быў ды не!
І ангел, Божы пасланец,
Рыхтуе пашпарт на той свет.
Дык годзе нам, браткі, журыцца,
Нальем у чаркі мы віна,
Спяваці станем, весяліцца
І поўну чарку піць да дна.
Няхай шуміць віно да даху,
Гэй, чаркі налівай паўней,
Даволі з нас нуды і страху,
Будзем піць, браткі, дружней.
Вып'ем, станем хахатаці:
Хі-хі-хі ды ха-ха-ха
Пара даўно ўсім людзям знаці,
Што наша жыцце патруха.

**Свіслач, 1889**

